2 ЛІПЕНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№73 (604) КОШТ СВАБОДНЫ




стар.7

# Дзень вызвалення

Кастусь ТАРАСАЎ

55 гадоў назад цэнтр Мінска выглядаў так, як сведчыць гэты фотаздымак: руіны без адзінай адзнакі жыцця. Гэтак жа былі зруйнаваныя ўсе буйныя прамысловыя гарады Беларусі. Чорнымі воспінамі пакрывалі нашую зямлю папялішчы болей за 9.000 спаленых вёсак. Калі 3 ліпеня купкі ацалелых мінчукоў плакалі ад шчасця, сустракаючы чырвонаармейцаў, на ўсход ад Мінска працягвалася бітва з узятымі ў кацёл нямецкімі дывізіямі. Брэст быў адваяваны 28 ліпеня, і пачаліся баі за вызваленне Беласточчыны, якая ў той час яшчэ ўваходзіла ў склад БССР. У нас зараз пра гэта не ўзгадваюць, але ў 1944 годзе там гінулі беларускія салдаты, лічачы, што вызваляюць родную краіну. Аказалася, што яны вызвалялі землі для сталінскага падарунка суседзям.




Мінск. 3 ліпеня 1944 года

За гады вайны ў Чырвоную Армію было мабілізавана 1,5 мільёна беларускіх мужчын (570 тысяч на пачатку вайны, болей за 900 — летам 1944 і ў 1945 годзе). З 200 тысяч насельніцтва даваеннага Мінска разам з тымі, хто вярнуўся з эвакуацыі, засталася ў жывых палова. Агульныя страты насельніцтва краіны за вайну склалі болей за 2,5 мільёны чалавек. Лічба не канчатковая. Яна не ўлічвае салдатаў, якія памерлі ад раненняў пасля вайны, і тых шматлікіх людзей, хто памёр ад невыноснасці гора — страчаных сем'яў, родных, любімых, хто застаўся адзінокі і непрыкметна дагарэў, не маючы моцы пачаць новае жыццё.

Спатрэбіліся дзесяцігоддзі, каб адбудавалася жыллё, каб напісалі пра спаленыя вёскі, каб помнік Хатыні стаў сімвалам перанесеных нашым народам пакутаў. Але заўжды дзень 3 ліпеня быў для Беларусі святам не менш значным, чым свята 9 мая. Бо ў ліпені 1944 першы раз пасля трох гадоў пекла людзі выходзілі на вуліцы з верай, што болей не будуць гінуць іхныя дзеці, што карнікі не прыйдуць да іх і не застрэляць кожнага дзесятага, што іх не адправяць у Германію, што хутка вернуцца дамоў бацькі, мужы, браты. Не ўсе спадзяванні спраўдзіліся.

Для тых, хто перажыў вайну і сустрэў у ліпені вызваленне ад нямецкай навалы, — гэта дзень радасці. Для тых, хто нарадзіўся пазней, — гэта дзень спачування сваім родным, старым людзям, якія ваявалі на фронце ці ў партызанах, выжылі пад акупантамі.

3 ліпеня — дзень памяці пра тое, што нясе вайна і якіх ахвяраў патрабавала вызваленне ад заваёўнікаў.

Гэты дзень ніколі не святкаваўся нашым народам як дзень Рэспублікі, бо тады Беларусь была суцэльным полем бітвы. Ніколі не ўзгадвалі ў гэты дзень і пра незалежнасць Беларусі. На вызваленую ад фашыстаў Беларусь вярнуўся сталінскі рэжым, вярнуліся гвалт і бяспраўе, высылкі людзей у сібірскія лагеры здзейсняліся да сакавіка 1953 года. Рэжым, які адправіў на той свет мільёны людзей у 30-я гады, які знішчыў рэпрэсіямі армію напярэдадні вайны, які не здолеў падрыхтаваць абарону дзяржавы, пасля 1944 года здзекаваўся з тых, хто патрапіў у палон, хто быў прымушаны выжываць на акупаваных землях. Аддаўшы 2,5 мільёна жыццяў, наш народ не атрымаў свабоды. Спатрэбілася паўстагоддзя, каб вярнуцца да даваеннай колькасці насельніцтва.

У гэты дзень, ускладаючы кветкі да абеліскаў, варта задумацца, што ўдзельнікі вайны, партызаны, старыя дастойныя лепшага жыцця, чым яны маюць цяпер. Што народ, які столькі адпакутаваў і столькі ахвяраваў, мае права на родную мову, на духоўную самастойнасць, на ўласную будучыню. Усё гэта і сімвалізуе нашая святая дата — 3 ліпеня. ■

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

## Спекхард збіраецца ў Беларусь

Амерыканскі пасол Дэніэл Спекхард 7 ліпеня прыедзе ў Мінск. На працягу тыдня ён намерваецца правесці шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі афіцыйных уладаў і апазіцыі. Як паведамілі ў прэс-службе міністэрства замежных справаў, спадар Спекхард абмяркуе пытанні двухбаковых адносінаў, у тым ліку праблему размяшчэння яго рэзідэнцыі. Нагадаем, што Дэніэл Спекхард пакінуў Беларусь у чэрвені мінулага года пасля таго, як беларускія ўлады пазбавілі яго рэзідэнцыі ў комплексе «Дразды».

## А в Беларуси лучше

Лидер казахстанской партии большевиков Утеген Кабазиев обратился в посольство Беларуси в Казахстане с просьбой предоставить ему политическое убежище. Он заявил, что начиная с 1992 года подвергался «систематическим гонениям» за свои большевистские убеждения со стороны казахстанских властей и «более 9 раз был арестован и осужден».

## Трагедыя ў Альпах

21 чалавек загінуў у мястэчку Сэнт-Эцьен-ан-Дэвалю ў французскіх Альпах у выніку аварыі на канатнай дарозе. Фунікулёр з інжынерамі, якія ехалі ў абсерваторыю на Пік дэ Бюр, зваліўся ў бездань з 80-метровай вышыні. Усе пасажыры фунікулёра загінулі. Прычыны катастрофы пакуль не ўстаноўленыя, бо «канатка» была ў добрым тэхнічным стане і адпавядала ўсім патрабаванням бяспекі.

*Аддзел інфармацыі*

наша свабода

НАДВОР'Е




**3-4 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, **3 ліпеня** на асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. **4 ліпеня** пераважна без ападкаў. Вецер заходні і паўднёва-заходні, 3—7 м/с, пры навальніцах парывы да 12—14 м/с. Тэмпература паветра ўначы: па **Брэсцкай вобласці** 3-га — +11—+16, 4-га — +13—+18; па **Гродзенскай вобласці** 3-га — +11—+16, 4-га — +13—+18; па **Гомельскай вобласці** 3 і 4-га — +13—+18. Па **Магілёўскай, Віцебскай** і **Мінскай** абласцях 3 і 4-га — +13—+18.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 440 000**

УСХОДНІ НАПРАМАК

# И в новом Союзе депутаты будут неприкосновенны

Вика ТУРОВА

**Александр Лукашенко готов помериться силами с Борисом Ельциным в борьбе за пост главы союзного государства. Об этом он заявил накануне открытия очередной сессии Парламентского собрания Союза России и Беларуси. Дело осталось за малым – учредить эту должность.**

Парламентарии двух государств собрались в Минске, чтобы обсудить вопросы дальнейшего объединения России и Беларуси. Депутаты намерены существенно дополнить предложенный администрациями глав государств проект Договора о создании Союзного государства. Они считают, что в исключительном ведении Союзного государства должны находиться вопросы внешней политики, обороны, безопасности, функционирования общей группировки войск, бюджетная и налоговая системы Союза, единое валютное регулирование, таможенное дело, единая торговля и таможенно-тарифная политика в отношении третьих стран, проведение единой ценовой политики и так далее.

Парламентарии полагают, что в договоре должно найти отражение право третьих стран на вхождение в Союзное государство. О таком желании, в частности, уже заявила Союзная Скупщина Югославии, представители которой в качестве наблюдателей участвуют в работе Минской сессии.

Пока в проекте договора, представленном на обсуждение, пост президента Союза отсутствует. Документом предусматривается, что высший орган Союзного государства возглавят председатель Совета и его заместитель, которыми поочередно будут главы государств — участников Союза. Это не то, чего хотел Александр Лукашенко, и совсем не то, о чем последнее время говорят российские политики, предрекающие президентскую синекуру для Бориса Ельцина на новой должности.

Зато парламентарии хорошо позаботились о своих нуждах. Они предлагают создать двухпалатный законодательный орган Союза, в котором найдется место как для российских, так и для белорусских политиков, невостребованных в национальных парламентах. И уж, конечно, союзным депутатам будет обеспечена неприкосновенность на территории обоих государств в течение всего срока их полномочий.

Депутаты настаивают на том, что Договор о создании Союзного государства должен быть утвержден на референдумах как в России, так и в Беларуси. Они не исключают, что объединение двух государств может потребовать внесения изменений в их конституции. ■

# Венскі уік-энд

Павел ЖУК

25-27 чэрвеня ў Вене прайшла канферэнцыя, прысьвечаная асэнсаваньню зьменаў, якія адбыліся ў сьвеце пасьля краху камуністычнай сістэмы ў 1989 годзе. У складзе яе ўдзельнікаў была прадстаўленая эліта сусьветнага і эўрапейскага палітычнага бамонду і буйнейшых газэтаў. Вацлаў Гавел, Аляксандр Квасьнеўскі, Збігнеў Бжэзіньскі, Віктар Кліма — федэральны канцлер Аўстрыі, Віктар Орбан – прэм'ер-міністар Венгрыі, Сяргей Кірыенка – былы расейскі прэм'ер, Тадэвуш Мазавецкі – «бацька» польскіх эканамічных рэформаў, Адам Міхнік – шэф-рэдактар «Gazeta Wyborcha» і мноства знаных эўрапейскіх палітыкаў, навукоўцаў, выдаўцоў і журналістаў. Канферэнцыя была арганізаваная Project Syndicate – міжнароднай асацыяцыяй прыватных газэтаў — і Аўстрыйскім інстытутам сацыяльных навукаў.

Тэма канферэнцыі — «Дзесяць гадоў пасьля: Палітыка, Ідэялёгія і Сусветны парадак»— адпавядала зорнаму складу ўдзельнікаў. Пачалося з прыёму, які даў Прэзідэнт Аўстрыі Томас Клесьціл у сваім палацы. Адбыліся дыскусійныя сэсіі па тэмах:

Сьвет без Савецкага Саюза, Будучы міжнародны парадак.

Ці перамог рынак?

Што засталося ад 1989г.?

Пасьля правых і левых: Посткамуністычная ідэялёгія.

Як трансфармуецца камунізм?

Гэтыя стрыжневыя пытаньні дазволілі асьвятліць грунтоўныя праблемы Эўропы і Сьвету, праверыць правільнасць палітыкі, абранай лідэрамі свабоднага сьвету дзесяць гадоў таму пры дапамозе і распрацоўцы такіх удзельнікаў канферэнцыі, як сп.Бжэзіньскі, лорд Скідэльскі, і блiскуча, на мой погляд, ператворана ў жыцьцё такімі выканаўцамі, як Прэзідэнт Гавэл, сп.Міхнік і інш.

Я не хацеў бы, каб чытач падумаў, што гэта была проста канферэнцыя, на якой, як гэта прынята ў нас, зьбіраецца палітычная тусоўка, каб папіць і паесьці на дармаўшчыну, перацерці косткі знаёмым і паскардзіцца адзін аднаму на ўладу. Не, гэта быў з'езд людзей, якія перамаглі найбольш пачварную ў сьвеце сілу – камунізм, перамаглі ідэйна і матэрыялізавалі перамогу ў сваіх краінах, гарантаваўшы свабоднае і забясьпечанае жыцьцё сваім грамадзянам. Такія асобы, як Гавел, Квасьнеўскі, Орбан, давалі своеасаблівую справаздачу сваёй дзейнасьці па пабудове дэмакратычнага грамадзтва ў сваіх краінах. Таксама ў дакладах і спрэчках былі акрэсьленыя рысы сусьветнай палітыкі на будучыню. Тое, што яны будуць прынятыя да выкананьня палітыкамі самага высокага ўзроўню, не выклікае сумненьня.

Асноўная ўвага ў наступным стагодзьдзі будзе нададзена правам чалавека і пабудове Эўрапейскай і сусьветнай бясьпекі, якія будуць пераважваць нават правы суверэнітэту краінаў. Адзначалася, што прыклад Косава, калі сілы NATO прымусілі дыктатара Сербіі прызнаць волю дэмакратычных краінаў, стаў своеасаблівым тэстам. Гэта папярэджаньне і прыклад палітыкам, што не зважаюць на гэтыя вартасьці.




На жаль, Беларусь на канферэнцыі была ўзгаданая толькі аднойчы, і тое ў кантэксьце падтрымкі рэжыму Мілошавіча. Прагноз развіцьця нашага рэгёна даў сп.Бжэзіньскі ў прыватнай размове. Як ён падкрэсьліў, у доўгатэрміновай (дзесяцігадовай ) перспэктыве развіцьця Беларусі – ён аптыміст. Рэжым Лукашэнкі, на яго думку, не мае шанцаў пратрымацца больш некалькіх гадоў. Будуць працягвацца кантакты і спробы прымусіць рэжым пайсьці на дэмакратычныя перамены як з боку Эўрасаюзу, так і з боку ЗША. Але ўсё гэта будзе мець плён толькі пры ўмове актыўных дзеяньняў дэмакратычнай апазіцыі. Што ж датычыцца простага ўмяшаньня, як здарылася ў Косава, гэта магчыма пры ўмове жорсткіх парушэньняў правоў чалавека, генацыду. Аб'яднаньне з Расеяй не зможа быць прызнанае, калі адбудзецца з парушэньнем дэмакратычных працэдураў, галосна, адкрыта і пры ўдзеле легітымных органаў улады.

Гэтая канферэнцыя паказала, чаго можна дасягнуць за дзесяць гадоў: можна перабудаваць сьвет. У Беларусі гэтыя дзесяць мінулых гадоў, нягледзячы на бурныя падзеі, былі бяздарна прамарнаваныя. Пачынаць прыйдзецца зноў з самага пачатку. ■

ГОЛАС ВУЛІЦЫ

## Які, на вашую думку, будзе курс наяўнага долара ў канцы 3-га квартала?


Алесь КАТЛЯНІК, прадпрымальнік

— Думаю, што каля 550 тысяч. Няма ніякіх падставаў, каб курс апусціўся. Я гляджу па тэндэнцыі: узяць студзень, сакавік... Гэта мая прыкідка 550, але вось мае хлопцы лічаць, што будзе і 600, і болей.


Ольга, бухгалтер

— Курс поднимется, а предел роста — неограничен. Как минимум, на тысяч 100-150 поднимется. Почему? Вы и сами прекрасно это знаете.


Павел, бармен

— Конечно же, курс поднимется. Я думаю, наверное, до миллиона. Будет резкий рост, потому что экономика наша ни на что не способна.


Игорь, военный

— Наше государство способно только немного сдерживать рост курса, а потому, я считаю, где-то 500 тысяч будут давать за бакс.


Валютчик, не представился и не сфотографировался

— Курс поднимется, в прошлом году за этот период в два раза увеличился. Сейчас уборочная, ваш дорогой президент высылает на колхозы электронные деньги, а банкиры их обналичивают, а потом курс растет. Так что в два-три раза поднимется.

Апыталі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)

МЕРКАВАННІ СПЕЦЫЯЛІСТА

# Адной памылкі дастаткова

Алесь ДАШЧЫНСКІ

**У адрозненне ад Расіі і Украіны, у нашай краіне не спыняецца канвеер смяротных пакаранняў. У мінулым годзе прэзідэнт Лукашэнка не памілаваў ніводнага з 38 прыгавораных судамі да вышэйшай меры. Разам з тым, вынесены смяротныя прысуды яшчэ 47 злачынцам, справы якіх неўзабаве трапяць у прэзідэнцкую камісію па памілаванні. Сёлета ў якасці выключэння толькі аднаму «смяротніку» камісія палічыла мэтазгодным памяняць «вышку» на 20-гадовае зняволенне. Нягледзячы на суровыя прысуды, колькасць цяжкіх злачынстваў не памяншаецца. Чаму ж у нашай краіне так прыжылася «вышка», ці ўяўляе яна сама небяспеку для грамадства? Пра гэта наш карэспандэнт размаўляе з вядомым адвакатам Гары ПАГАНЯЙЛАМ.**



— За адмену смяротнага пакарання я выступаю ўжо даўно. Мая пазіцыя сфармавалася на падставе нашага гістарычнага вопыту. Працуючы ў міністэрстве юстыцыі, вывучаючы судовую статыстыку і практыку, мне давялося ўбачыць, што ў савецкія часы смяротнае пакаранне прымянялася ў страшэнных памерах, асабліва ў гады сталінскіх рэпрэсіяў. У нашай краіне сёння няма судоў, якія маглі б гарантаваць выключэнне судовай памылкі. Гэтае пытанне перш за ўсё кадравае, патрабуецца вельмі высокі прафесіяналізм. Маральная планка ў суддзяў павінна быць настолькі высокай, каб яны падпарадкоўваліся выключна закону і ніхто не мог паўздзейнічаць прама ці ўскосна. Сёння нашыя судовыя чыноўнікі поўнасцю ляглі пад уладу і дзейнічаюць не на падставе закона, а па палітычнай мэтазгоднасці, іншы раз нават па чыноўніцкім меркаванні (так загадаў начальнік). У такіх умовах неабходна ўстрымлівацца ад смяротных прысудаў. Я з хваляваннем чакаў вынікаў «справы Мікалуцкага», па якой Радзікоўскі, Гаўрылаў і Янчэўскі абвінавачваліся ва ўчыненні тэракту. Пад уплывам сфармаванай грамадскай думкі, націскам выканаўчай улады і самога прэзідэнта справа магла б скончыцца для гэтых маладых людзей вышэйшай мерай. Слава Богу, у суддзі хапіла грамадзянскай і прафесійнай мужнасці прыняць іншае рашэнне да асобаў, віна якіх у гэтай справе вельмі ўмоўная.

***— Улады спасылаюцца на думку народа, пакідаючы «вышку» ў крымінальным кодэксе. Гэтае пытанне дэманстратыўна было вынесенае нават на рэферэндум.***

— У гэтым плане не ў народа трэба пытацца. Адукаваныя, цывілізаваныя людзі павінны заканадаўча замацаваць адмену смяротнага пакарання і растлумачыць гэта народу з ягонымі нігілістычнымі адносінамі да права, самакаштоўнасці чалавека. Сам жа падыход — прасіць у народа дазволу на смяротнае пакаранне — з'яўляецца вяршыняй цынізму ў адносінах да народа і права. У Беларускі Хельсінкскі камітэт нядаўна паступіў зварот грамадзянаў пра абвінавачанне, вытачанае па ўскосных уліках, і тут не выключаная судовая памылка, а чалавека прыгаварылі да вышэйшай меры. Падобныя заявы мы накіроўваем у камітэт па правах чалавека са штаб-кватэрай у ААН.

***— Самае страшнае — калі суддзі выносяць несправядлівае пакаранне. Яны не маюць права на памылку, у адваротным выпадку самі становяцца забойцамі. Ці ёсць прыклады такіх памылак?***

— Я магу ўзгадаць самы вядомы выпадак з нашай найноўшай гісторыі. Справа маньяка Міхасевіча: да яго выкрыцця і затрымання, віцебскі абласны суд асудзіў каля 15 чалавек за злачынствы, здзейсненыя гэтым маньякам. Сярод іх быў нехта Цярэня, раней судзімы, якога прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Я вывучаў гэтую справу і ведаю, што там было шмат яўна вельмі сумнеўных доказаў, якія неабходна было крытычна асэнсаваць пракуратуры і суду. Гэтага не адбылося, і Цярэню расстралялі, а праз некалькі гадоў выявілі сапраўднага злачынцу. Вось вам элементарная судовая памылка, але жыццё чалавека ўжо не вернеш. Дарэчы, маці Цярэні пісала ва ўсе інстанцыі, верыла ў невінаватасць сына, а ўрэшце атрымала даведку аб выкананні прысуду. Ужо толькі адзін гэты прыклад павінен быў пацягнуць за сабой выключэнне з нашага крымінальнага кодэксу вышэйшай меры пакарання. Гэта гарантавала б нас ад судовай памылкі. Наогул, у крымінальным працэсе ўстанавіць ісціну практычна немагчыма. Нярэдка вінаватая асоба з'яўляецца адзінай крыніцай праўдзівых звестак, але, нават калі чалавек прызнаецца ў забойстве, матывы ўчынку могуць быць абсалютна рознымя. Напрыклад, чалавек абараняў гонар сваёй жонкі, хоць за гэта і не трэба забіваць. Іншы раз нізкія прычыны злачынства чалавек можа ўтаіць, а высокія — вынесці на людскі суд, які можа толькі наблізіцца да ісціны, а не ўстанавіць яе. Многае залежыць ад таго, як да працэсу ставяцца суддзі: ці спрабуюць яны разабрацца ў матэрыялах справы, у тых доказах, якія прадстаўлены следствам, альбо гэтая справа проста пастаўленая на паток і суддзі давяраюцца абвінаваўчаму заключэнню, у якім выкладзеная ўсяго толькі версія следства. У гэтым заключаецца асноўная небяспека. Нярэдка сустракаешся з абыякавасцю, прафесійнай дэградацыяй суддзяў, для якіх чалавек практычна не ўяўляе ніякай каштоўнасці. Ён ужо загадзя — чалавек вінаваты, і неабходна толькі пацвердзіць ягоную вінаватасць, тым больш калі ён знаходзіўся пад вартай. Калі апраўдаць — тады ж давядзецца рэагаваць на незаконны арышт, патрэбна аднавіць правы гэтага чалавека, кампенсаваць яму страты і г.д.

У крымінальнай судавытворчасці па-ранейшаму існуе абвінаваўчы ўхіл. У нас карыстаюцца крымінальна-працэсуальным кодэксам, сфармаваным яшчэ ў 20-30-я гады. Хоць за апошні час ягоны фасад крыху паднавіўся, але, па сутнасці, уся працэдура абвінавачвання склалася ў тыя рэпрэсіўныя гады. Усё зроблена не для абароны правоў чалавека ў крымінальным працэсе, а наадварот, для абвінавачвання гэтага чалавека, стварэння максімуму спрыяння для следчага, пракурора, без спаборнасці працэсу, з рэзка абмежаванымі правамі абаронцы.

***- Ці былі ў Вашай адвакацкай практыцы справы, звязаныя з цяжкімі злачынствамі? Ці лёгка даводзіцца адвакату абараняць чалавека, якому пагражае «вышка»?***

— Так, але Бог мяне мілаваў ад вынікаў па справе, калі мой падшэфны прыгаворваўся да смяротнага пакарання. Справы гэтыя, наогул, псіхалагічна вельмі цяжкія. Як правіла, ёсць пацярпелы бок. Можна зразумець гора людзей, якія прысутнічаюць у зале суда. Для іх злачынца — найвялікшы вораг (па прынцыпе вока — за вока, зуб — за зуб), яны настроеныя гранічна агрэсіўна да асобы на лаве падсудных і ў пэўнай меры да ягонага абаронцы, які, на іхні погляд, займаецца несправядлівай справай. Бяда ў тым, што яшчэ і афіцыйны друк свядома фармуе негатыўныя адносіны да адваката, не разумеючы, што разбурае аснову правасуддзя, бо калі суддзі ігнаруюць довады абаронцы, ім цяжка пазбегнуць судовай памылкі.

***— Нашым уладам, відаць, зручна мець у крымінальным кодэксе «вышку» за цяжкія злачынствы, нават за здраду радзіме альбо тэракт.***

— Сённяшняя ўлада трымаецца на страху людзей. Гэта адзіны маральны крытэрый і арганізацыйны стрыжань заканадаўчай дзейнасці. Адносіны нашай улады да гэтай праблемы пераконваюць мяне, што яна далёкая ад гуманных і хрысціянскіх ідэяў. Дарэчы, пажыццёвае зняволенне за цяжкія злачынствы ў нас уведзенае несвоечасова, бо ніводная пенітэнцыярная ўстанова на тэрыторыі Беларусі не адпавядае міжнародным стандартам для пажыццёвага ўтрымання людзей. Умовы, у якіх асуджаныя адбываюць пакаранне, я прыраўняў бы да катаванняў, здзекаў з чалавечай годнасці. Мы нават не паспрабавалі ўвесці мараторый на смяротныя пакаранні, каб пабачыць, як паўплывае гэта на сітуацыю .

***— Не менш жорсткай з'яўляецца ў нашай краіне сама працэдура выканання смяротных прысудаў...***

— Гэта з'яўляецца дзяржаўнай тайнай. Ніхто не ведае, якім чынам, дзе, у якім парадку і хто вырашае пытанне аб прывядзенні прысуду ў выкананне. Гэта ненармальна. У прававой дэмакратычнай краіне падобная працэдура павінна быць дакладна расπісаная, людзі павінны ведаць, як гэта робіцца. Родныя маюць права хаця б забраць труп чалавека пасля пакарання, а ў нас бацькі нават не ведаюць, дзе пахаваны іхні сын. Гэта таксама негуманна. Няхай будзе суровым закон у адносінах да асобы, якая здзейсніла злачынства, але нельга караць родных і блізкіх.

У следчых ізалятарах адведзеныя месцы для выканання прысуду, «смертнікаў» расстрэльваюць спецыяльныя людзі. На месцы пакарання прысутнічаюць ўрач, які павінен канстатаваць смерць, пракурор і адміністратар установы. А потым застаецца роўненькая зямля, і ўсё. Пры сённяшняй уладзе і яе адносінах да чалавека я не бачу перспектываў у гэтай справе. Прыйдзе новая ўлада, якая не на словах будзе ставіцца да чалавека як да цэнтра сусвету, адзінай каштоўнасці дзяржавы. Вось тады будуць захоўвацца маральныя прынцыпы, а грамадства і дзяржава будуць дрэйфаваць да цывілізаванага берага, на якім немагчымыя такія рэчы, як смяротнае пакаранне. ■

ЗАМЕЖЖА

# Чарнагорскія пакуты

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Адна з дзвюх рэспублікаў, што складаюць сёння Саюзную Югаславію, — Чарнагорыя – больш не хоча жыць у адной «кватэры» са сваім агрэсіўным суседам – Сербіяй. Жыхары балканскай «камуналкі» працягваюць адмяжоўвацца адзін ад аднаго.**

Цяпер Чарнагорыя прыкладае шмат намаганняў, каб Захад успрымаў яе больш цёпла, так бы мовіць, па-сяброўску. Апошнім часам у рэспубліцы рыхтуецца прапанова да федэральнага кіраўніцтва Югаславіі перавызначыць абавязкі і паўнамоцтвы Чарнагорыі ў складзе саюза. У прыватнасці, размова ідзе пра ўвядзенне Чарнагорыяй сваіх законаў аб мытні, аб падаткаабкладанні, а таксама аб увядзенні сваёй валюты замест югаслаўскага дынара. Апроч таго, рэспубліка хоча перайначыць усю сістэму адміністратыўнага кіравання – каб яна працавала больш эфектыўна.

Па некаторых звестках, чарнагорскі прэзідэнт Міла Джуканавіч рыхтуецца адначасова распачаць перамовы непасрэдна з заходнімі краінамі аб наданні краіне незалежнасці – бо ясна, што Слабадан Мілошавіч яму адразу адмовіць. На гэты выпадак ужо загатоўлены варыянт правядзення агульнанацыянальнага рэферэндуму аб выхадзе Чарнагорыі са складу Саюзнай рэспублікі Югаславія.

Тым часам, нечаканы крок зрабілі амерыканцы. Днямі Дзярждэпартамент ЗША папярэдзіў Чарнагорыю аб недапушчальнасці далейшага «раздзірання» былой Югаславіі на кавалкі.

Як заявіў прэс-сакратар Дзяржаўнага дэпартамента Джэймс Рубін, «далейшы распад Югаславіі не дапаможа ўстанаўленню міру і стабільнасці на Балканах». Болей за гэта, на думку амерыканскіх уладаў, незалежнасць Чарнагорыі не стане панацэяй ад крызісных з'яваў, якія цяпер адбываюцца ў гэтай краіне. Тым не менш, ЗША гатовыя падтрымаць Чарнагорыю, калі тая папросіць пашырыць сваю аўтаномію ў складзе Югаславіі.

Пакуль дыпламаты і палітыкі шукаюць кампраміс у вызначэнні статусу Чарнагорыі, хваля народных выступленняў за аддзяленне толькі расце. Асабліва гэта стала бачна пасля вайны за Косава, калі чарнагорцы на свае вочы ўбачылі, чым можа скончыцца сяброўства з Сербіяй. Чарнагорыя хоча стаць незалежнай еўрапейскай краінай, увайсці ў склад Еўрасаюза і зажыць шчасліва. Адзінай перашкодай на гэтым шляху да дабрабыту чарнагорцы пакуль лічаць Сербію. ■

ЭКАНОМІКА

# Беларусі пагражае банкаўскі крызіс

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Банкаўская сістэма Беларусі апынулася ў катастрафічнай сітуацыі. Днямі гэты факт прызнаў міністр фінансаў Мікалай Корбут падчас выступу перад дэпутатамі Нацыянальнай палаты прэзідэнцкага парламента.**

Міністр фінансаў паскардзіўся «палатачнікам», што айчынныя камерцыйныя банкі знаходзяцца ў настолькі цяжкім становішчы, што нават не маюць сродкаў на выплаты зарплатаў сваім супрацоўнікам. Але ж хто вінаваты, умоўна кажучы, што «шавец застаўся без ботаў»? Справа ў тым, што беларускія ўлады, у лепшых бальшавіцкіх традыцыях, ставяцца да камерцыйных банкаў як да абсалютна чужароднай рынкаваму сацыялізму з'явы і няўмольна выкарыстоўваюць іхнія недзяржаўныя капіталы на дзяржаўныя патрэбы.

Асабліва ўзмацніўся ціск на кіраўніцтва гэтых банкаў з пачатку 1999 г., калі старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч расчараваўся ў магчымасцях шырокай эмісіі грашовай масы і вырашыў яе значна абмежаваць. Аднак трэба ж было недзе браць грошы на патрэбы канаючай беларускай эканомікі, і ўлады вырашылі гэтую праблему за кошт недзяржаўных банкаў. На пасяўную, жніво з дажынкамі і іншыя праекты ўладаў сродкі бралі менавіта там. Банкіры ціха абураліся, але былі вымушаныя грошы даваць. Бо няма ніякіх гарантыяў, што чарговая дзяржаўная праверка не знойдзе ў «сквапнага» банкіра фінансавых парушэнняў, і той не апынецца на нарах. Перад заходнімі крэдытадаўцамі кшталту МВФ улады падавалі дзяржаўнае вымагальніцтва як добраахвотнае інвеставанне камерцыйных банкаў у беларускую эканоміку. Праўда, гэтая хлусня прынесла мала плёну — Міжнародны валютны фонд усё роўна не даў крэдытаў. А бязглуздая палітыка ўладаў прывяла банкі да крызісу ліквіднасці. Гэта значыць, што ў банкаў няма сродкаў нават для таго, каб выдаваць іх сваім кліентам, бо аграпрам, як вядома, амаль ніколі не вяртае назад крэдыты, а дзяржава потым проста даруе калгасам нявернутыя грошы.

Пагоршыла становішча і ранейшае вольнае абарачэнне ў эканоміцы Беларусі пустых грошай. Цэны пачалі расці больш імкліва, чым грашовая маса, а тут яшчэ і падвысілі мінімальную зарплату. А ў дзяржавы з'яўляюцца ўсё новыя і новыя фінансавыя праблемы, вырашаць якія яна збіраецца зноў за кошт банкаў. Па словах міністра фінансаў Мікалая Корбута, за пяць месяцаў гэтага года даходная частка бюджэту выкананая на 87 працэнтаў. І каб знайсці патрэбныя сродкі, урад не прыдумаў нічога больш разумнага, як следам за Расіяй уводзіць у Беларусі фінансавую піраміду ГКО. Праўда, камерцыйныя банкі з-за недахопу грошай добраахвотна набываць гэтыя казначэйскія абавязацельствы не жадаюць. Аднак урад асабліва цырымоніцца з «буржуямі-банкірамі» ў гэтай справе яўна не збіраецца. Кіраўніцтву банкаў проста разаслалі разнарадку, у якой указана, колькі сродкаў які банк павінен «добраахвотна» ўкласці ў ГКО, і канец. На думку многіх эканамістаў, калі падзеі ў банкаўскай сферы будуць так развівацца і надалей, то Беларусь чакае ўласны фінансавы крызіс, можа, яшчэ больш глыбокі, чым мінулагодні расійскі. Спецыялісты прагназуюць, што яго пік можа прыпасці на восень гэтага года. ■



ПРЫВАТНАЯ ДУМКА

# Фабрыка-кухня

## або Працяг гульні ў «чэсных» і «нячэсных»

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Арышт дырэктара Беларускага металургічнага завода (БМЗ) выклікаў шок як сярод жыхароў Жлобіна, так і па ўсёй Беларусі.**

Бо што такое БМЗ для Жлобіна? Літаральна ўсё. Калі шпацыруеш па горадзе і пытаешся ў абарыгена, напрыклад, хто пабудаваў гэты прыгожы дом ці гэты дзіцячы садок, нязменна чуеш у адказ: БМЗ! Але і гэта не ўсё. На пачатку 80-х, калі ў горадзе над Дняпром распачалося будаўніцтва завода, дагэтуль глухі Жлобін стаў імкліва ператварацца ў буйны і, па савецкіх мерках, сучасны горад. Бо, як той казаў, хацелі таго бальшавікі ці не, але жлобінцы неяк адразу «лоб у лоб» сутыкнуліся калі не з капіталізмам, дык з капіталістамі.

На самой справе гэта былі тыповыя пралетарыі, але заходняга складу. Бо заказ на будоўлю БМЗ ад савецкага ўрада атрымала аўстрыйская фірма, якая гэтых «пралетарыяў» навербавала амаль з усёй Еўропы. Ад такога імгненнага кантакту палезлі вочы на лоб і ў «заходнікаў», і ў абарыгенаў. Першыя здзіўляліся, як гэта ў СССР можна жыць, калі так дрэнна працаваць. А нашыя ўсё казалі: «Нам бы такія заробкі, і мы б далі дыхту». Такая вось узнікла ідэалагічная дыскусія на тэму «хто там гніе ды прыемна пахне».

Як заўсёды, адказ «савецкага боку» быў цвёрды. Маўляў, існуе два пункты гледжання — наш і няправільны. Але на гэты раз бездакорны дасюль ідэалагічны імператыў не спрацаваў. Просты люд, ды і гаспадарчае начальства кожны дзень бачылі, што эксплуатуемыя заходнікі працуюць намнога лепш за нашых так званых рабацягаў. Ды і жывуць.

Канчаткова і радыкальна пытанне, як заўжды, вырашылі жанчыны (наогул, існуе такі погляд, што яны прынцыпова не ўспрымаюць пралетарскую ідэалогію). Як бы там ні было, але праз нейкі час ад пачатку будоўлі Жлобін стаў Мекай «начных матылькоў». Пакінуўшы свае рабочыя месцы, сюды рынуліся жрыцы кахання ці не з усяго Саюза, у першую чаргу з партовых гарадоў. Але іх галоўны козыр — вопыт — лёгка пабілі маладзенькія абарыгенкі, для якіх прыемнае пітво, добрыя цыгарэты, не кажучы ўжо пра СКВ (многія дасюль лічылі, што валюта мае выгляд кракадзіла), былі наймацнейшым са стымулаў. Да таго ж, прыемна пагуляць з кавалерам, які «ў морду не б'е» ды не мацюгаецца.

З гэтай відавочнай праявай адкрытага сексуальнага антысаветызму не змаглі нічога зрабіць ні КДБ, ні міліцыя. Не кажучы ўжо пра выхавацелек, многія з якіх у душы зайдросцілі тым магчымасцям маральнага падзення, якія дае маладосць.

Мо яно і лепей. Бо ў выніку нарадзілася не якая там пачвара, а шыкоўны, лепшы ў СССР і нікольки не горшы, чым дзе-небудзь у астатняй Еўропе, металургічны завод. Вось што, прынамсі, піша пра БМЗ штотыднёвік «Белорусский рынок» у №25 за гэты год: «БМЗ — гэта буйнейшы беларускі экспарцёр, які забяспечвае 1/10 усіх нашых продажаў у далёкае замежжа. На экспарт ідзе каля 70% яго прадукцыі, прычым у далёкае замежжа — 45%».

Гэта сёння. А пасля завяршэння да 2001 года рэканструкцыі, якую кіраўніцтва прадпрыемства праводзіць, каб не адстаць ад патрабаванняў часу, у Еўропе не будзе заводаў, роўных БМЗ. Прынамсі, так да гэтага часу лічылі спецыялісты. Чаму лічылі? Таму што Феакціставу для БМЗ — гэта тое, што БМЗ для Жлобіна — амаль усё. Ці трэба пасля гэтага гаварыць, што Феакціставу з'яўляецца ці не самым паспяховым кіраўніком з усяго дырэктарскага корпуса. Прынамсі, нядаўна гэта адзначыла Беларуская навукова-вытворчая асацыяцыя (БНВА), назваўшы яго лепшым з лепшых, а на пачатку года ён нават атрымаў Дзяржпрэмію РБ.

У мінулым годзе давялося размаўляць з адным з уплывовых жлобінскіх функцыянераў. І ён сказаў літаральна наступнае: «Лягчэй чалавека ад турмы выратаваць, чым уладкаваць яго на БМЗ. Хоць бы і простым рабочым». Мо таму адразу ж пасля арышту на БМЗ прайшлі стыхійныя мітынгі з патрабаваннем: «Аддайце нам нашага дырэктара!».

Аддадуць? Наўрад ці. Бо мінулагодні мой жлобінскі суразмоўца распавядаў і аб сістэме кіравання кадрамі, якая склалася не толькі ў Жлобіне, а і па ўсёй Беларусі. Яе можна параўнаць з лоўляй клёцак у булёне. Булён — гэта шматлікія правілы і прадпісанні па гаспадарчай дзейнасці, якія супярэчаць адно аднаму, а разам — новым указам, дэкрэтам ды распараджэнням. Таму, калі ўспрымаць усё гэта як настаўленне для дзейнасці, то ніякай дзейнасці, прынамсі, паспяховай, і быць не можа. Клёцкі — гэта кіраўнікі, якія дзеля поспеху справы змушаныя калі не парушаць, дык абыходзіць гэтыя распараджэнні. Таму чым больш поспех, тым больш верагоднасці трапіць у каструлю. А лепяць клёцкі не менш шматлікія органы, якія няспынна капаюць кампрамат, ды і складваюць яго «ў папачкі», як гэта робіць звычайная гаспадыня, калі кладзе злепленыя клёцкі ў маразільнік.

Вось такая фабрыка-кухня. «Клёцку» могуць зляпіць амаль з кожнага. Ці пасадзіць, ці рот заткнуць. І гэта пры тым, што Феакціставу, у адрозненне ад «мяцежных» Старавойтава, Кудзінава ці Клімава, быў відавочна палітычна лаяльным да рэжыму. У Жлобіне могуць многае расказаць пра тое, як на БМЗ праводзіўся так званы рэферэндум. Цяпер тут кажуць, што ўся справа Феакцістава ёсць вынік маніпулявання фактамі. Але ж у 1996 годзе тут, відавочна, маніпулявалі. Калі гэта так, то мэты і сродкі былі аднолькавымі: умацаванне пазіцыяў вядомай усім персоны пад маркай барацьбы за народны дабрабыт.

Усё вяртаецца на кругі свае. Як заявіў адзін з кіраўнікоў БМЗ, піша «Белорусский рынок», завод — гэта смачны кавалак. Таму затрыманне дырэктара — гэта справа рук тых, хто ўвёў у зман кіраўніцтва краіны і спрабуе прыбраць завод да сваіх рук. Слушная вельмі заўвага. Але ж, як той казаў, ці ён украў, ці ў яго ўкралі. Пасля таго, як многія кіраўнікі-гаспадарнікі, якіх змусілі ўдзельнічаць у практычнай палітыцы на карысць рэжыму (яны для сябе тлумачылі гэта жаданнем застацца пры справе і працаваць на карысць краіны), добра паспрыялі «прыхватызацыі» гэтай краіны гэтым рэжымам і яго шматлікімі паслугачамі, пра зман гаварыць смешна. Які ўжо тут народны дабрабыт.

Дарэчы ўспомніць і пра тое, што рэферэндумная перамога Лукашэнкі была б немагчымай без палітычнай падтрымкі Расіі, якую персанальна ажыццявілі Чарнамырдзін і Строеў. Зразумела, кіраваліся яны пры гэтым не клопатам пра кволую беларускую дэмакратыю, а ўласнымі палітычнымі інтарэсамі. Пералік апошніх быў бы занадта доўгім, ды і не ўсё ляжыць на паверхні. У Расіі таксама нямала людзей (іх клічуць алігархамі), якія свае ўласныя інтарэсы маскіруюць пад усерасійскія. Так, для папаўнення бюджэту расійскі ўрад з 7 траўня бягучага года ўвёў на 6 месяцаў пошліну на экспарт расійскага металалому ў памеры 15%. Гэтая мера здольная прывесці да значнага падаражэння другаснага металу на сусветным рынку. Таму той пасрэднік, які здолее «дамовіцца з мытняй», азалаціцца ў прамым сэнсе гэтага слова. А калі ўлічыць, што БМЗ традыцыйна большую частку сыравіны купляе ў Расіі (падобныя закупкі — гэта неабкладаемая ніякімі падаткамі вытворчая кааперацыя), то зусім верагодна, што БМЗ хочуць зрабіць транзітным пунктам для перапродажу расійскага металалому на Захад. Тым больш, што беларускі ўрад ніякіх абмежаванняў на вываз лому не прымаў.

Верагоднасць такіх наступстваў, адзначае аглядальнік «Белорусского рынка» Аляксандр Алесін, рэзка павялічваецца з улікам неверагоднай прыбытковасці падобных схемаў (гутарка можа ісці пра сотні і мільярды нікім не кантралюемых долараў). З улікам таго, што ў Расіі ўжо пачаўся перадвыбарчы марафон, з якім так ці інакш звязаныя інтарэсы гэтых алігархаў, гэты сцэнарый выглядае вельмі актуальным. У гэтым выпадку прафесійны металург Феакціставу мала падыходзіць на ролю ўтрымальніка «чорнай касы», заключае аглядальнік.

Што ж, прынцып «ты мне, я табе» універсальны. Ён выкарыстоўваецца ўсюды, дзе прымаюцца келейныя рашэнні. Таму зацікаўленыя расійцы з поўным правам могуць патрабаваць плату за дапамогу тры гады таму ва ўсталяванні на Беларусі поўнага, нічым не абмежаванага народаўладдзя.

Так гэта ці не зусім, мы, пэўна, даведаемся не хутка. Але ўжо зусім відавочна, што беларускае грамадства загнівае. І смурод ад гэтага неверагодны. Але пакольку ў сне чалавек непрыемных пахаў не адчувае, то ён спіць, аж пакуль з яго не зробяць заказную страву. ■

памяць XX стагоддзя 1910

## «Далёкія наступствы...»

**Міхал МАТУШ**

Смерць чалавека ў 82 гады не можа выклікаць надта гарасныя перажыванні. Гэта — доўгі век, век абранніка. Калі ў 1910 годзе на станцыі Астапава сканаў Леў Талстой, смутак мноства людзей вынікаў з іншага — з адчування, што іх пакінуў чалавек, які нараджаецца адначы ў эпоху. Пры ўсім жаданні немагчыма знайсці роўную Талстому па значнасці асобу сярод мысліцеляў нашага стагоддзя. Такія людзі назаўжды застаюцца ў духоўным жыцці чалавецтва, як назаўжды засталіся Сакрат, Францыск Асізскі, Шэкспір.

З прычыны таго, што ўсе мы навучаныя праваряць школьнай алгебраі гармонію генія, самае важнае ў спадчыне Талстога застаецца па-за ўвагай большыні. Мы прызвычаеныя глядзець на Талстога як на стваральніка эпічных твораў. Філасофія Талстога ў нас іранічна крытыкавалася. «Несупраціўленне злу насіллем» — было ператворанае ў сакраментальную фразу, якую кпліва вымаўляюць людзі, абсалютна няздольныя прасякнуць глыбіню думкі Талстога.



У савецкі час Талстога называлі крытыкам буржуазнага ладу. Сёння мы вяртаемся ў буржуазны лад пасля камуністычнага эксперыменту. Усё, што казаў Талстой на пачатку стагоддзя, без усялякіх зменаў можна прыкласці да нашага часу, да ўсіх яго рэаліяў і асобаў: прыкладам, непераможную няўвагу да чалавека, да яго правоў, імкненне задушыць нязгодных тэрорам, прымушаць слабейшага вайной, трымаць жывёльных інстынктаў, эксплуатаваць бальшыню дзеля камфорту багатай меншасці. Крытыка Талстым прадажнай царквы, намаганні павярнуць душу чалавека да сапраўднага Хрыста выклікалі ў адказ нянавісць кліра. Вельмі паказальна, што ў 1901 годзе Святы Сінод рускай праваслаўнай царквы аддаў Льва Талстога праклёну. За ўсю рускую царкоўную гісторыю так былі адлучаныя двое — Пугачоў і Талстой.

Талстой не давяраў тэорыям, якія абяцалі палепшыць жыццё шляхам знешніх пераменаў. Ён не падтрымліваў рэвалюцыянераў, бачачы ў іх сілу, якая хоча замяніць сабой панаючую арыстакратыю. Гісторыя Напалеона, асэнсаваная Талстым для рамана «Вайна і мір», засведчыла эвалюцыю радыкалаў, якія прыходзяць да ўлады пад дэвізам барацьбы за роўнасць і свабоду, а потым залліваюць іх крывёю. Нашае стагоддзе сотнямі прыкладаў пацвердзіла і пацвярджае гэтую ісціну.

Галоўную думку Льва Талстога можна пераказаць так: пакуль не зменіцца канкрэтная асоба, пакуль застаецца ранейшай маральная якасць чалавека, датуль ніякія змены сацыяльнай формы нічога не пераменяць у адносінах паміж людзьмі. Шмат навукоўцаў абвінавачвалі Талстога ў неразуменні эвалюцыі: людзі становяцца ахвярамі благога выхавання ў сям'і, прадажнай і падпарадкаванай дзяржаве рэлігіі, падманных патрыятычных пачуццяў і г. д. Быццам бы Талстой не разумеў чалавечай прыроды. Але ён узняў праблему маральнага ўдасканалення асобы на вышыню чалавечага прызначэння. Без перабольшання ўсе найлепшыя маральныя дасягненні, тэорыі нашага стагоддзя або вынікаюць з ідэяў Талстога, або былі ім пазначаныя.

У людзей такога маштабу, як Талстой, не можа быць сябро́ў, яны адзінокія, як адзінокі быў Хрыстос. Іх думкі і прапановы застаюцца нязддзейсненымі, бо мала тых, хто здольны іх увасобіць. Але без такіх маральных прароцтваў, якія запаляюць сэрца і ўзвышаюць душу, чалавецтва страціла б магчымасць ацэньваць сябе. Просты чалавек не можа думаць як тытан, але ён можа ісці на святло запаленай геніем зоркі, можа зрабіць учынкі, добрыя наступствы якіх знаходзяцца ў будучыні, а не разлічаныя на ўхваленне знаёмымі і сябрамі...

Сваю смерць Леў Талстой сустрэў у дарозе, як вандроўнік. Ён і выйшаў ёй насустрач з уласнага дома, дзе адчуваў ціск уласнай недасканаласці, недасканаласці родных людзей. Яго цягнула давядаца галоўную таямніцу быцця, яму балела, што не паспеў зрабіць больш за адпушчаны век. Пры яго смяротным ложку сядзела любімая малодшая дачка Аляксандра, якая паабяцала выканаць бацькоўскі запавет — выдаць пасмяротна яго творы, а на гэтыя грошы выкупіць землі Яснай Паляны і раздаць сялянам. Яна гэта выканала. Леў Талстой, адыходзячы, здолеў зняць супярэчнасць, якую балюча перажываў дзесяцігоддзі.

Талстой прымушаў людзей думаць. Прымушае цяпер. І будзе прымушаць у наступныя часы. Гэта самае большае, што дадзенае зрабіць чалавеку. ■

# Мистификация-2000

**Алексей ПИГАЛЕВ**

**1 января 2000 года компьютеры, спутники, провайдеры Интернета, тостеры и прочая бытовая электроника сойдет с ума. Для того, чтобы гарантировать их работу, нужно переписать все программное обеспечение, причем не только новое, но и старое. Переписать одну строчку машинного кода стоит $1, а переписать ее правильно — $4. Ошибку в 60-х годах придумали американские программисты, считавшие, что для обозначения года в дате достаточно двух цифр. На исправление нужно очень много денег — столько, что аж дух захватывает, но все равно не хватит, потому что этого слишком мало. 1 января 2000 года самолеты решат, что наступил 1900 год. И станут аэропланами. Все это называется «Проблема 2000».**

### Проблемы решения «Проблемы 2000»

История человечества не устает демонстрировать, что любой прибор, орган, структура или явление функционируют лучше всего ровно до тех пор, пока туда не сунулись специалисты. Неизвестно, возникла бы «Проблема 1986», если бы специалисты не стали баловаться с графитовыми стержнями. Возможно, не случилось бы и «Проблемы 1989», если бы других специалистов не распределили в Элисту помогать детям. Наконец, когда специалисты дорываются до компьютера автора этих строк, то приходится тратить массу времени, чтобы починить компьютер обратно.

Сегодня ситуация складывается следующим образом. В принципе, если оставить все как есть, у мира имеются некоторые шансы выжить после катастроф, вызванных ошибками программного обеспечения. Маленький, конечно, но все же есть. И лишь в том случае, если не разрешать специалистам добавлять собственные ошибки к уже имеющимся.

Следствия:

1. Количество денег, потраченных на экспертов по исправлению «Проблемы 2000», прямо пропорционально количеству новых ошибок, способных нанести дополнительный ущерб.

2. Чем выше квалификация эксперта и чем раньше он приступит к выполнению своих обязанностей, тем выше вероятность выхода из строя программно-аппаратных комплексов досрочно. То есть какая-нибудь атомная электростанция обязательно рванет не из-за «Проблемы 2000», а как только эту самую проблему начнут устранять.

3. Обязательно отыщется идиот, который поступит так, как советует российский журнал «Деньги»: «Координатор программы «Проблема 2000» Мирового банка Джойс Амента считает, что работы по этой проблеме можно будет существенно удешевить, если использовать «бесплатную» рабсилу (студентов или военных)». Вы подпустите сержанта или студента к своим электронным таблицам? А эти к своим ракетным установкам — подпустят.

4. Ошибки экспертов, связанные с решением «Проблемы 2000», будут разнообразнее и «интеллектуальнее» ошибок программного обеспечения и техники.

5. В новом тысячелетии решение «Проблемы 2000» плавно перетечет в решение ПРОБЛЕМ РЕШЕНИЯ ЭКСПЕРТАМИ ПРОБЛЕМЫ 2000. То есть эксперты, уцелевшие после первой волны ядерных ударов, взрывов атомных электростанций и последствий поломки таймеров бытовых видеомагнитофонов, будут обеспечены работой и соответствующей заработной платой на много лет вперед.

### Кто лучше всего подготовлен к «Проблеме 2000»?

Структуры, чья жизнеспособность действительно зависит от необходимости устойчивого и бесперебойного функционирования, менее всего пострадают от «Проблемы 2000». По той простой причине, что наиболее квалифицированные специалисты по созданию, тестированию, эксплуатации и профилактике отказоустойчивых систем работают там. Там накоплен практический опыт.

Просто, пока менее надежные звенья рынка (провайдеры, госструктуры, военные, электростанции, аэропорты, больницы, транспортные развязки, научно-исследовательские институты и пр.) будут оправляться от нанесенного удара, информация о наркотиках, порнография, схемы отмывания денег, компромат, рецепты изготовления взрывчатки и нецензурные анекдоты пойдут по альтернативным каналам. Хотя, разумеется, это отразится на росте цен и удобстве для конечного пользователя.

### Кому выгодна «Проблема 2000»?

1. Тому, кто о ней говорит. Мне (допишу статью — побегу за гонораром), а также всем остальным собратьям по перу, так или иначе рассуждающим о «Проблеме 2000».

2. Устроителям конференций и семинаров по «Проблеме 2000».

3. Бюджетным организациям, получающим дополнительные средства на решение «Проблемы 2000».

4. Коммерческим организациям, получившим возможность заработать на смене системной даты.

5. Производителям программного обеспечения, выпускающим «новую исправленную версию, полностью 2000-совместимого», и программного обеспечения, проверяющего программно-аппаратные дела на предмет «Проблемы 2000».

### Настоящая «Проблема 2000»

Сегодня, в течение одного дня, о «Проблеме 2000» мне сообщили 4 газеты, 2 журнала, 3 телепрограммы, 2 радиостанции, половина из всех новостных веб-сайтов. И это только начало.

Так вот. Закройте на секунду глаза и представьте, что первого января 2000 года ничего не рвануло, не испортилось, не нарушилось, не отбросило назад, не упало на жилые кварталы, не отравило воду, не вышло из берегов, не покалечило мирных граждан. Представили? А теперь ответьте на следующие вопросы:

1. Если вокруг тихо и спокойно, как убедить налогоплательщиков в том, что их миллиарды ушли на решение реальной, а не вымышленной проблемы?

2. Чем заполнять эфир, газетные полосы, обозрения и списки рассылки? Извинениями?

3. Куда потом девать и на какие шиши кормить многомиллионную армию экспертов и перепрограммистов?

Самая большая угроза «Проблемы 2000» заключается в том, что 1 января может ничего не произойти.

Но, разумеется, этого никто не посмеет допустить.

### Способы решения настоящей «Проблемы 2000»

Пока журналисты объясняют друг другу то, в чем они не



● Потенциальная жертва «Проблемы 2000»

разбираются, умным мальчикам давно пора заняться серьезными делами.

Во-первых, ясно, что взрыв одного химкомбината упростит процедуру отчетности за средства, вложенные в решение «Проблемы 2000» несколькими сотнями других, более серьезных структур. Соответственно, необходимо срочно решить, что именно и в каком количестве должно взлететь на воздух в честь празднования наступления нового тысячелетия.

Далее. На этом свете до сих пор существует немало вещей, в которых просто обязаны время от времени возгораться провода или еще чего. А более удобного случая может ведь и не подвернуться... В общем, пока вы это читаете, эксперты ломают головы.

Третье. «Проблема 2000» уже давным-давно заявлена как запланированный форс-мажор в масштабах земного шара. А на запланированной катастрофе всегда можно неплохо заработать. Например, если известно, что такого-то числа вагоны будут сходить с рельсов чаще обыкновенного, причем этому есть научное обоснование, с которым согласны и признают уважительной причиной уже просто вообще все поголовно, то решение сводится к тому, чтобы:

а) не забыть прицепить к пущенному под откос составу собственную тележку;

б) заранее подготовить все необходимые сопроводительные документы;

в) подумать, как списать под «Проблему» как можно больше всякого разного;

г) то, что списать нельзя, нужно подключить к компьютеру и все равно списать. ■

**СВЕДЧАННЕ**

# Беларускі рок на відэа

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Беларуская музычная альтэрнатыва пры падтрымцы Беларускага Хельсінкскага камітэта выдала відэаварыянт кампакт-дыска «Вольныя танцы», які ўбачыў свет у пачатку красавіка. Запіс створаны на аснове канцэртаў-акцыяў «Вольныя танцы», якія адбыліся 25 сакавіка і 1 красавіка ў мінскім клубе «Акварыум». Прэзентацыя кампакт-дыска ўвесну бягучага года прыцягнула ўвагу ўсіх маладзёжных тусовак Мінска і краіны ўвогуле. Яшчэ б, першы кампакт-дыск, на якім запісаныя беларускамоўныя рок-гурты. Хіты з CD загучалі на радыёстанцыях даволі часта. Моладзь скарыстоўвала любую магчымасць, каб замовіць любімыя песні з дыска. Тады і нарадзілася ідэя выдаць відэакасету.

Трэба сказаць, песні на відэа – іншыя, хоць і амаль тых жа гуртоў. Ды гэта і да лепшага, бо калі б хіты паўтараліся, далёка не ўсе ўладальнікі кампактаў набывалі б відэаварыянт. Апроч старых знаёмых — «Уліса», «Новага Неба», NRM, «Крамы», «Нейро-Дюбеля», тут ёсць выступленні менш вядомых гуртоў. Гучаць вядомыя кампазіцыі: «Камендант» («Крама»), «Краіна талераў» («Камэлот»), «Охотник и сайгак» (НД), а таксама новыя, упершыню запісаныя на гэтых канцэртах хіты (іх на касеце пяць).

Праглядаючы запіс выступлення любімых гуртоў, вы адчуеце эфект прысутнасці на канцэрце, атмасферу свята, што панавала ў «Акварыуме».

Умоўна касету можна падзяліць на дзве часткі: больш лёгкія кампазіцыі на пачатку і больш цяжкія (Deviation, Postscriptum, «Нейро Дюбель») напрыканцы. Кожны можа выбіраць тое, што яму бліжэй да сэрца.




Аматарам рок-музыкі час рыхтаваць грошы: да з'яўлення касеты на прылаўках засталіся лічаныя дні. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 566 Нумар падпісаны ў друк 1/07/99 (15:00) Наклад — 21.340